

Газета заснавана ў 1938 годзе.
Выходзіць з 1997 года.

# Газета Слонімская

№ 17 (17). Слонім. 26 верасня - 2 кастрычніка 1997г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны

НАВІНЫ

## Эх, бульбачка

**У гаспадарках раёна бульба ўбрана з плошчы 684 гектара, што складае 68% да плана.**

Сярэдняя ўраджайнасць — 135 цэнтнераў клубняў з гектара. Гэта ніжэй, чым у мінулым годзе, але вышэй, чым у іншых рэгіёнах Беларусі. Самая высокая ўраджайнасць у калгасе «1 Мая» — 175 ц/га.

Тым не менш не парадавала сваім ураджаем бульба, вырашчаная на прыватных участках. У самым лепшым выпадку чалавек накапаў на 5-6 мяхоў клубняў болей, чым пасадзіў. Таму не дзіўна, што гэтай восенню цана на беларускую бульбу трывала трымаецца на ўзроўні 30-50 тысяч рублёў за вядро.

А. М.

## Аборты не забараняюцца

**У апошні час у нашым горадзе хадзілі чуткі, што нібыта ў жаночую кансультацыю прыйшло распараджэнне, якое забараняе рабіць жанчынам аборты ва ўзросце да 35 гадоў.**

Як паведаміла карэспандэнту нашай газеты загадчыца жаночай кансультацыі Алена Кунцэвіч, гэта толькі чуткі. Ніякіх падобных распараджэнняў не было. Сёння ў Слоніме на 100 родаў прыпадае ўсяго 17,5 абортаў.

Міхась АКУЛКА

## Капытных вазьмуць пад прыцэл

**З 18 кастрычніка пачнецца паляванне на ласёў, аленяў, дзікоў і казуль.**

Згодна загаду Міністэрства лясной гаспадаркі РБ паляваць на капытных будзе дазволена да 14 снежня па суботах, нядзелях, а таксама ў святочныя дні.

Н.Ф.

## У маладых літаратараў свой клуб

**3 верасня пры ЦДЮТ пачаў працаваць клуб творчай моладзі «Безмеж».**

Юныя літаратары адзін раз на тыдзень збіраюцца, каб абмеркаваць свае творы, пагутарыць пра навінкі літаратуры, павучыцца вершаскладанню.

У наступным годзе «Безмеж» плануе выдаць свой першы літаратурны альманах.

Міхась АКУЛКА

ЖЫЦЦЁ АРМЕЙСКАЕ

# Да нас у госці едзе НАТА

Цяпер у Слонімскай механізаванай брыгадзе поўным ходам ідзе падрыхтоўка да батальённых тактычных вучэнняў з баявой стральбой, якія пройдуць у перыяд з 6 па 9 кастрычніка.

«Баявыя дзеянні» разгарнуцца на тэрыторыі Абуз-Лясноўскага палігона, што знаходзіцца ў Баранавіцкім раёне. Асноўны ўдар на сябе прыме чацвёрты танкавы батальён, якім камандуе падпалкоўнік Генадзь Галеня. Менавіта яго гвардзейцы падчас вучэнняў будуць дэманстраваць баявую вывучку. А ўвогуле, трэба сказаць, што 11-ая механізаваная брыгада ў беларускіх войсках лічыцца адной з лепшых па боегатоўнасці.

Наглядаць за ходам вучэнняў будуць замежныя ваенныя аташэ, якія акрэдытаваны ў Беларусі. Акрамя таго, мяркуецца, што паглядзець на вучэнні прыедзе прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

Падобныя вучэнні, толькі ў іншым масштабе, Слонімская брыгада праводзіла чатыры гады назад. Тады таксама ў якасці наглядальнікаў былі прадстаўнікі НАТА.

Анатоль МІРСКІ



*Старшыня калгаса імя Леніна **Генадзь Красачка** (крайні справа), як знаўца ваеннай стратэгіі, тлумачыць афіцэрам НАТА пра тое, што адбываецца на полі «боя». Фота з архіва рэдакцыі (12 кастрычніка 1993 года).*

СЕСІЯ РАЙСАВЕТА

## Дэпутаты думалі...

**У мінулую сераду, 24 верасня, прайшла сесія райсавета.**

Дэпутаты-аграрнікі разважалі, як палепшыць работу прамысловых прадпрыемстваў, падсобных промыслаў у калгасах і саўгасах, а таксама думалі пра стварэнне новых працоўных месцаў на вёсцы.

Алесь ЦІШКЕВІЧ




*У РДК адбылася выстава кветак, а разам з ёй і забаўляльная праграма - Баль кветак. Каралевай Балю стала **Алена Кананчук**, вучаніца 11-га класа СШ N8.*

СЕСІЯ ГАРСАВЕТА

## Міліцыя просіць дапамогі

**Учора, 25 верасня, адбылася сесія гарадскога савета.**

Дэпутаты абмяркавалі стан правапарадку ў Слоніме і далі ацэнку барацьбы са злачыннасцю. Справаздачу перад народнымі выбраннікамі даваў начальнік міліцыі Мечыслаў Батура.

Дарэчы, напярэдадні сесіі камерцыйныя ўстановы атрымалі лісты, за подпісам палкоўніка М. Батуры. У сваім пасланні ён распавёў пра тое, у якім цяжкім становішчы цяпер знаходзіцца Слонімскі аддзел міліцыі. У прыватнасці, адзначаецца, што з траўня гэтага года спынена фінансаванне міліцыі па падтрымцы матэрыяльна-тэхнічнай базы. Толькі за бензін ГРАУС завінаваціў нафтабазе 72 млн. рублёў. А «маючыя ў ГРАУС камп'ютары выйшлі са строю і не падлягаюць рамонту і эксплуатацыі» - адзначаецца ў пасланні.

У сувязі з гэтым, начальнік Слонімскага ГРАУС лічыць, што ў горадзе «працягваецца працэс развіцця арганізаванай злачыннасці. Маштабны характар набывае незаконны абарот наркотыкаў». Каб утаймаваць у горадзе злачыннасць і навесці парадак, аддзел міліцыі спадзяецца на спонсарскую дапамогу прадпрыемстваў і фірмаў, якіх папрасіў пералічыць грошы ў гарадскі фонд «Правапарадку».

В. Я.

## Небяспечная забава

**17 верасня адбыўся пажар у вёсцы Капусты Дзеравянчыцкага сельсавета.**

Агонь узнік пасля таго, як 5-гадовы хлопчык падпаліў сена ў адным з хлявоў. Калі са Слоніма прыехалі пяць пажарных машын, моцны вецер перакінуў полымя на два суседнія дамы.

На дапамогу прыйшлі мясцовыя механізатары, якія падвозілі на трактарах ваду.

Вынік дзіцячай забавы сумны: цалкам згарэлі хлеў і адзін дом, а ў другім не засталося даху... Толькі страты аднога згарэўшага будынка склалі амаль 48 млн. рублёў.

Алег ТАЧОНЫ

## «Невядомаму сібіраку»

**Так назвалі помнік, адкрыццё якога адбылося на мінулым тыдні ў польскім горадзе Беластоку.**

Ён быў устаноўлены ў знак памяці ахвярам сталінскіх рэпрэсій 1935-1937 гадоў - беларусам і палякам, што загінулі ў Сібіры. На адкрыццё помніка былі запрошаны жывыя сведкі тых трагічных часоў, у тым ліку і з Гродзеншчыны.

Ад Слонімшчыны на ўрачыстасць была запрошана старшыня раённага аддзялення Саюза палякаў Леанарда Раўкоўская, як ахвяра сталінскіх рэпрэсій.

Валянцін ЧУРЫЛА

АФІЦЫЙНА

## Заробак не выдаў – ідзі за краты

**Магчыма, у хуткім часе прэзідэнт падпіша дэкрэт, які прадугледжвае персанальную адказнасць кіраўнікоў прадпрыемстваў, незалежна ад формы ўласнасці, за несвоечасовую выплату зарплаты.**

Паводле праекта гэтага дэкрэта, піша рэспубліканскі друк, калі службовая асоба або кіраўнік прыватнай фірмы не выплаціць заробак у тэрмін, яго чакае звальненне на тэрмін да 4 год без права займаць пэўныя пасады, або займаць пэўнай дзейнасцю на тэрмін да 3 год. У лепшым выпадку за гэтае парушэнне кіраўнік можа быць у адміністратыўным парадку аштрафаваны на 100 мінімальных зарплат.

Апрача таго, згодна праекта новага прэзідэнцкага дакумента, плануецца ўвядзенне крымінальнай адказнасці за незаконнае звальненне работніка, альбо невыкананне рашэння суда аб яго ўзнаўленні на працы. А за іншае парушэнне працоўнага заканадаўства, службовая асоба можа быць пакарана выпраўленчымі работамі на тэрмін да 1 года альбо звальненнем.

Наталля ФУРСАВА

ГОРАД *Жыллёвае пытанне*

## Не заплаціў за кватэру – перасяляйся

**Сёння жыхары Слоніма запазычылі за камунальныя паслугі 794,3 мільёна рублёў.**

Высвятляецца, што самымі «злоснымі» неплацельшчыкамі з'яўляюцца кватэранаймальнікі, якіх абслугоўвае ЖЭС-1. Агульная запазычанасць там складае 399,8 мільёнаў рублёў. Як адзначаюць работнікі жыллёва-эксплуатацыйнай службы №2, сярод неплацельшчыкаў ёсць і свае «лідэры». Напрыклад, В.М. Заяц ужо завінаваціў камунальнікам 3,807 тыс. рублёў, а В.Г. Кацеленец і Е.І. Каралько - больш як на тры мільёны рублёў і інш. Атрымліваецца, што некаторыя жыхары горада не плацяць за жыллё па году і больш.

А ўвогуле, па інфармацыі рэспубліканскіх СМІ, у Беларусі такіх неплацельшчыкаў не больш 3%. У сувязі з гэтым міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі РБ распрацавала праект новага жыллёвага кодэкса, які ўжо перададзены на разгляд у Палату прадстаўнікоў. У якім прадугледжана высяленне «у жыллё меншай камфортнасці» тых грамадзян, хто не плаціць за кватэру на працягу шасці месяцаў.

Па словах слонімскіх камунальнікаў, частка людзей у сваёй большасці перастала плаціць за жыллё таму, што няма на гэта грошай. Часцей за ўсё неплацельшчыкамі з'яўляюцца састарэлыя, беспрацоўныя, альбо сем'і, дзе няма аднаго з кармільцаў.

Міхась АКУЛКА

ЗДАРЭННІ

## Аварыя ў Альбярціне

**У пятніцу, 19 верасня, у 18.35 на электрападстанцыі «Альбярцін» здарыўся пажар.**

Па словах начальніка інспекцыі дзяржпажарнагляду Генадзя Ёды, прычынай загарання стала кароткае замыканне ў сістэме абароны трансфарматара. На месца здарэння тэрмінова прыехалі мэр Алег Лакцюшын і яго намеснік Аляксандр Конан.

Слонімскія пажарныя хутка ўтаймавалі агонь, але ўвесь Альбярцін часова застаўся без святла. На шэсць гадзін спыніўся кардонна-папяровы завод, які звычайна працуе круглыя суткі. Была пагроза і затаплення насоснай станцыі (КНС), але, на шчасце, выпадак, які зафіксаваны некалькі гадоў таму не паўтарыўся (тады больш як тыдзень прыйшлося адкачваць ваду з КНС). Тры гадзіны не было святла ў раённай бальніцы. Гэтым выпадкам спрабавалі скарыстацца злодзеі, якія хацелі зняць шкло з вокнаў. Але іх своечасова заўважыў і нагнаў вартаўнік бальніцы.

Як стала вядома, не выключана, што Слонім наведае абласная камісія, каб высвятліць абставіны гэтай аварыі.

Алег ТАЧОНЫ

ФУТБОЛ

## У «Камунальніка» новы дырэктар

У кіраўніцтва футбольнага клуба «Камунальнік» адбылася змена. Пасаду дырэктара каманды пакінуў Васіль Адаська. Яго абавязкі цяпер выконвае Віктар Пазнікін.

**24 верасня «Тарпеда» Мінск—«Камунальнік» – 5:2**

**ФУТБОЛ** *Першая ліга 20-ы тур*

*«Коммунальник» Слоним — М П К Ц Мозырь 1 : 0*

# Николай Дым: «Слоним будет играть в первой лиге!»

Такими словами могла завершиться пресс-конференция после окончания игры 20-го тура в Слониме, если бы она состоялась. Николай ДЫМ, забив победный гол на 9-ой минуте, имеет право так утверждать: как вице-капитан, как автор гола, как один из сторожилов команды и любимцев слонимских болельщиков.

... Да, быстро летит время, быстро меняются приоритеты. В 23 года футболист уже считается ветераном. Я помню, как в 1991 году, он молодой парнень, выпускник ДЮСШ прошедшей игры, «Торпедо» (Минск), вместе с другими воспитанниками знаменитого тренера Николая Блашко приехал в слонимский «Альбертин» на просмотр. И, благодаря трудолюбию и природному таланту, буквально сразу завоевал авторитет и место в основном составе. Не всякому новичку удавалось легко влиться в ту слонимскую команду «братьев Лебецких и К°». Николай смог.

Его даже не обидели слова тогдашнего председателя спорткомитета: «Варяги нам не нужны!», так как не собирался он быть «варягом». Он приехал в город с открытой душой и Слоним ответил ему взаимностью. Николай здесь сформировался как футболист, нашел свою судьбу, у него здесь появилась семья. Он и сейчас считает слонимский микрорайон Альбертин более родным и близким, чем минскую Чижовку, в которой родился и вырос. Но, самое главное — он стал любимцем болельщиков,



которые ласково его величают: «Наш слонимский Куман!»

И даже играя в последней игре с травмой, на новом для себя месте, он, как всегда, был душой и заводилой команды. Забив гол, он полностью выполнил установку главного тренера. Поэтому именно на таких как Николай Дым держится слонимский футбол. Мы уверены: «Слоним будет играть в первой лиге!»

**Евгений ЛИШИК**

# Запрашаем у падарожжа

*Заўтра - Сусветны дзень турызму*

У студзені 1998 года Слонімскаму бюро падарожжаў і экскурсій споўніцца 25 гадоў.

Вялікай папулярнасцю сёння карыстаюцца падарожжы па Беларусі, СНД і ў іншыя краіны свету. Для школьнікаў, напрыклад, бюро прапануе аўтобусныя экскурсіі ў Мір-Нясвіж, Брэст-Белавежская пушча, Мінск-Хатынь, Мінск з наведваннем цырка. Для жадаючых пагасціць у родных і знаёмых у Літве, ці набыць аўтамабіль, бюро аказвае паслугі па адкрыццю віз. А таксама камерцыйныя паездкі ў Польшчу і Маскву.

У нашай вобласці ёсць турбаза «Нёман».

Яна размешчана ў шасці кіламетрах ад Гродна, на жывапісным левым беразе ракі Нёман, у сасновым лесе.

Турбаза «Нёман» пабудавана ў 1976 годзе, разлічана на 514 месц і прымае турыстаў цэлы год. Па сваёй камфартабельнасці не ўступае лепшым турбазам краіны.

Да паслуг адпачываючых - прасторная, с добрай кухняй сталоўка-рэстаран, пункт пракату турысцкага інвентару і абсталявання, спартыўныя пляцоўкі, лодачная станцыя, пляж, кіназал, бібліятэка, більярдны пакой, ігральныя аўтаматы, ёсць і лячэбныя кабінеты (масаж, фізкабінет).

Турбаза арганізуе захапляючыя паходы па мясцовым маршрутам, шмат аўтобусных экскурсій па славутых мясцінах Гродзенскай вобласці і за яе межамі.

**Матэрыял апублікаваны на правах рэкламы**

## НАШ КАЛЯНДАР

**26 ВЕРАСНЯ 1926** года польскія ўлады забаранілі правядзенне павятовага з'езда Беларускай сялянска-работніцкай грамады, які павінен быў адбыцца ў Слоніме.

**27 ВЕРАСНЯ 1920** года ў Слонім, які быў спешна пакінуты Чырвонай Арміяй, увайшла Літоўска-Беларуская дывізія польскага войска. За шэсць гадоў вайны было знішчана каля 500 дамоў, зруйнаваны цэлыя кварталы горада. З 23 тысяч гараджан, якія жылі ў Слоніме ў 1914 годзе, у 1920-ым засталося толькі 9 тысяч.

**28 ВЕРАСНЯ 1989** года пачала працаваць Жыровіцкая праваслаўная духоўная семінарыя.

**30 ВЕРАСНЯ 1921** года ў Слоніме польскія ўлады правялі перапіс насельніцтва. Па дадзеных на той час у горадзе жыло 13113 чалавек.

**1 КАСТРЫЧНІКА 1888** года ў Слонімскім павеце нарадзіўся Лукаш Дзекуць-Малей, беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч. У 1931 годзе ён пераклаў на беларускую мову і выдаў «Новы запавет і Псалмы».

У гэты ж дзень у 1908 годзе ў Дзеравянчыцах адкрылася аднакласнае вучылішча. Уся яго маёмасць складалася з 12 парт і 548 кніг.

**Сяргей ЁРШ**

## ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### ВІНШУЮ

**Климутко Наташу** с днем рождения поздравляет подруга Света.

**Леночку Якимович** с днем рождения поздравляет семья Петюшик.

**Егора Петюшика** с 18-летием поздравляет мама.

**Яскевич Галину** с днем рождения поздравляют родители Баймурзаевы и сын Сергей.

**Яскевич Галину Абдуганиевну** с днем рождения поздравляют Дмитрий, Алеся и Володя Якубовские.

**Жлоба Лидию Николаевну** с днем рождения поздравляют сын, дочь и невестка.

Дорогие **мамочка и папочка**, поздравляю Вас с 19-летием совместной жизни. Ваша дочь Гембицкая Галина.

**Решетник Анну Семеновну** с днем рождения поздравляет Постников Н. В.

**Вику Карнацевич** с 19-летием поздравляет Харитончик Наташа.

**Леончиков Бориса Михайловича и Лидию Ивановну** с днем рождения поздравляют дети.

**Голоднего Сергея** с днем рождения поздравляет Зоя.

**Лабор Николая Николаевича** с днем рождения поздравляют жена, сыновья, невестка и внук Леша.

**Ловако Ирину Ивановну** с днем рождения поздравляют дети.

**Севастьяна Сергея** с днем рождения поздравляет крестная Света.

**Романюк Татьяну** с совершеннолетием поздравляют родители и брат Сергей.

**Залевскую Раису Павловну** с днем рождения поздравляют соседи Тамара и Николай.

**Лену Корнелик** с совершеннолетием поздравляют родители и брат Саша. Желают ей крепкого здоровья и хорошего настроения.

**Кухарчик Елену** с вступлением в новую жизнь поздравляет подруга Орловчик.

**Соловей Катюшу** с днем рождения поздравляют родители и сестра Женя.

**Аникееву Лидию Ивановну** с днем рождения поздравляют свекр, свекровь, золовка и ее семья.

**Кухарчик Татьяну Николаевну и Орлову Ирину Николаевну** поздравляют с днем рождения дочери.

**Викторию Ламеко** с днем рождения поздравляют родители и сестра Наташа.

**Трафімовіч Ірыну Пятроўну** з днём нараджэння віншуе сястра Вольга.

**Быкову Наташу** с 18-летием поздравляет подруга Света.

**Герасимчик Ольгу Николаевну** с днем рождения поздравляют соседи.

**Фалько Игоря** с днем рождения поздравляют родители, сестра Инна.

**Салейко Наташу** с 18-летием поздравляет мама и сестра Ира.

курсанта **Шарапова Виталия** с 18-летием поздравляют друзья, курсанты ВАРБ.

**Семененко Валерия Константиновича** с днем рождения поздравляют работники бухгалтерии.

дорогую доченьку **Татьяну Иосифовну Ботько** с днем рождения поздравляют родители.

### ПРАДАЮ

* мотоцикл «Урал» с коляской. Тел. 2-99-43.
* 2-комн. кв-ру в Гродно. Тел. 72-22-55 (в Гродно).
* электронный переводчик: 10500 слов, 8 языков, часы, будильник, калькулятор и др. Тел. 2-69-03 (Виктор).
* стенка «Леда» (5 секций), мягкий уголок. Тел. 2-52-81.
* а/м «Москвич-412 ИЭ», 1983 г.в. Тел. 5-16-64 (после 17.00).
* детскую коляску, прицепное устройство к ВАЗ. Тел. 4-14-22.
* детскую коляску и детский комбинезон. Тел. 2-20-32.
* обручальное кольцо (р.16), золотую цепочку (50 см, 6г). Тел. 5-12-27.
* недостроенный дом в г. Мосты. Тел. 5-19-82 (Слоним), 2-79-51 (Мосты).
* новые запчасти для а/м «Москвич». Тел. 5-27-19 (после 17.00).
* стиральную машину «Рига». Тел. 2-24-21.
* гараж по ул. Коссовский тракт, видеоплейер «JVC». Тел. 2-97-96.
* а/м «Nissan-Sunny» 1986 г.в. Тел. 5-19-71.
* гарантийный видеоплейер «SHARP»м132, детские ходунки. Тел. 2-05-87.
* а/м «Москвич-412 ИЭ» 1975 г.в. Тел. 5-11-17.
* детский комбинизон. Тел. 2-99-13.
* 3-комн. кв-ру на «Энке». Тел.4-22-18.
* УАЗ-452; костюм мужской новый р.50/4. Тел. 2-69-37, 5-20-41.
* дачу в д. Чемеры. Тел. 3-17-34.
* прихожая, трельяж, пальто женское. Тел. 4-16-16.
* две односпальные кровати. Тел. 2-90-36.
* а/м «Москвич- 2140» 1978 г.в. Тел. 2-99-49.
* а/м «AUDI-100» 1980 г.в. Тел. 4-10-11.
* «Ява-350» с коляской 1972 г.в. Тел. 2-20-96.
* деревянный дом, земельный уч-ок 10 соток. Ул. Виленская, 57.
* недостроенный кирпичный дом и земельный уч-ок. Тел. 2-00-88.
* телевизор цв. «Саба», видеомагнитофон, стол журн. (свет. орех, нов.), стол журн. (темн., б/у), велосипед дет. Тел. 4-24-22 (с 20.00 до 21.00).
* велосипед, мопед «Рига». Тел. 5-15-19 (после 18.00).
* породистых щенков служебной породы («Черный терьер»). Тел. 2-56-54, 3-15-35.
* 2-х ком. кв-ру на «Вышках». Тел. 4-26-46 (после 19.00)
* запчасти к а/м «Форд». М/а «Баркас». Тел. 4-29-29 (с 20.00 до 22.00).
* мотоцикл «Ява» на запчасти, задние крылья к а/м ВАЗ-2101. Тел. 2-78-05.
* а/м ГАЗ-21. Тел. 2-19-48 (после 19.00).

### КУПЛЮ

* гараж в районе «Энка». Тел. 4-22-25.
* бампер к а/м «Москвич-2140 SL». Тел. 5-29-23.
* магнитофон-приставку, усилитель. Тел. 2-29-50.

### МЯНЯЮ

* луговое сено (400-450 кг) на 100 кг картофеля или продаю. Тел. 3-14-33.
* две 2-комн. кв-ры на 3-комн. или продам. Тел.2-90-36.
* дом у цэнтры горада альбо прадам. Тэл. 2-08-62.

### ПАЗНАЁМЛЮСЯ

◆ Александр, 20 лет, Лев, познакомится с симпатичной, интересной, общительной девушкой для дружеских отношений. 321800, г. Слоним, в/ч 33933 «Ы», ВТО, Александру.

◆ пазнаёмлюся з моладдзю, якая захапляецца беларускім рокам, бардаскай песняй. 220085, г. Мінск, а/с 5, Супрановіч Віталь. Тэл. (0172) 31-04-08.

◆ женщина 45/170/68 без вредных привычек познакомится с порядочным, обеспеченным, одиноким мужчиной в возрасте 50-55 лет. Г. Слоним-9, а/я 21.

### РОЗНАЕ

—семья с трех человек снимет кв-ру. Тел. 5-16-55 (после 17.00).

—семья снимет кв-ру на 1,5-2 года. Тел. 2-27-45, 75-2-09 (Жанна).

—возьму попутчиков в Польшу на а/м «Мерседес-300». Тел. 2-46-39.

—выполню работы плотника при строительстве жилых домов, кладку из блоков, бет. работы, обновление крыш домов. Тел. 5-27-54.







Выказваем глыбокае спачуванне **Мікалаю Вароніну** з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора - **смерці бацькі.**

*Сям'я Адамчук.*



Газета Слонімская

**КУПОН ДЛЯ ПРЫВАТНЫХ БЯСПЛАТНЫХ АБ'ЯВАЎ N 17**

Рубрыка ____________

Тэкст (разборліва)________________________

________________________

________________________

________________________

Адрас (тэлефон)________________________

________________________

________________________

***Шаноўныя сябры!***

*Мы вельмі рады размясціць у газеце Вашы аб'явы бясплатна. Вам толькі трэба напісаць у купоне тэкст аб'явы, а таксама ўказаць, у якой рубрыцы яна мусіць быць размешчана:* куплю, прадаю, мяняю, віншую, пазнаёмлюся, паслугі. *Пасля Вы адсылаеце купон у рэдакцыю па ўказаным адрасе.*

*Увага: ксеракопіі купона не прымаюцца, а аб'явы камерцыйнага характару не публікуюцца. Адказнасць за змест рэкламы нясе рэкламадаўца.*

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар Валадашчук.
Юрыдычны адрас : 231800, г. Слонім, вул.Брэсцкая, 109–1–12.
Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.
Падпісана да друку 25 верасня 1997. Час падпісання 8:00. Падпісны індэкс 64042.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.
Наклад 5.000 экз. Заказ № 2.232